„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.

# Ніва

№ 30 (74) БЕЛАСТОК, 28 ЛІПЕНЯ 1957 г. ГОД II

Віктар Швед

## РОДНАЯ МОВА

*Мова ты родная, мова прыгожая*
*Як-жа цябе не кахаць, не любіць!*
*Ты пратрывала атакі варожыя,*
*Цябе не здолеў ніхто пакарыць.*

*Ты пад страхою знайшла саламянаю*
*Прытулак ад цяжкай навалы, нягод.*
*Цябе, мова, носіць з вялікай пашанаю*
*У сэрцы сваім беларускі народ.*

*Паднятая сілай Купалы і Коласа*
*Змагла ўсе правы ты свае адстаяць,*
*Змагла ты дайсці да магутнага голасу*
*І месца пачэснае ў свеце заняць*

*Калі нехта скажа — ёсць мовы мілейшыя,*
*Яму адказаць я заўсёды гатоў:*
*Найпрыгажэйшая, найдаражэйшая*
*Мне мова прадзедаў, мова бацькоў.*

*Варшава, 12.VII.1957*



*Тэатр ім. А. Венгеркі ў Беластоку. (Чытай рэпартаж аб Беластоку на стар. 6).*
*фото — А. Омільяновіч.*

НАПЯРЭДАДНІ НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА.

## БЕЛАРУСКАЯ ФІЛАЛОГІЯ

Закончыўся першы год працы кафедры Беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце. Студэнты пасля гадовых экзаменаў паехалі на час летніх канікул да бацькоў адпачыць і набраць новых сіл да далейшай працы. Некатораым з іх прыдзецца папрацаваць яшчэ і ў часе канікул, папоўніць усе свае недахопы, каб восенню здаць бракуючыя экзамены.

Незадоўга студэнты, пасля летняга адпачынку, вернуцца на універсітэт, дзе ў новым навучальным годзе распачнуць працу ўжо на другім курсе. Іх старае месца займе новая моладзь, якая прыдзе на першы курс беларускай філалогіі.

2—5 ліпеня адбыліся ўступныя экзамены на кафедру Беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце. Кандыдаты на беларускую філалогію аказаліся ў вельмі шчаслівай сітуацыі. Калі напрыклад на польскую філалогію выпала 5 кандыдатаў на адно месца, тут наадварот — на 20 месц 2 ліпеня прыступіла да экзамену толькі 11 асоб.

Тады магчыма, што ўсе засталіся прынятымі — можа нехта сказаць. Нажаль справа так прыгожа не выглядае. На 11 асоб, якія прыступілі да пісьмовага экзамену па рускай мове да вуснага дапушчана толькі 6 асоб — ды і гэтыя ў большасці напісалі на пасрэдна. На вусным экзамене па беларускай і польскай мовах, які адбыўся 5 ліпеня не здалі яшчэ дзве асобы і ў канцы на беларускую філалогію прынята ўсяго толькі чатыры асобы.

Чаму так мала? — кожнаму з нас насоўваецца пытанне. Галоўнай прычыны гэтага стану, здаецца, трэба шукаць у слабай падрыхтоўцы кандыдатаў да ўступных экзаменаў, бо калі хто-небудзь з іх добра адказваў па беларускай мове, горш па польскай, тады ўжо зусім дрэнна выпаў па рускай мове.

Так было і ў мінулым годзе, калі пасля пісьмовага экзамену па рускай мове адпала палова кандыдатаў і гэтае-ж самае паўтарылася і цяпер.

Здаецца, што кандыдаты на беларускую філалогію зусім не рыхтуюцца да экзамену па рускай мове, не звяртаюць на гэта ўвагі, адным словам яны думаюць, што як ужо з'яўляюцца беларусамі — тады экзамен па рускай мове — гэта для іх дробязь! У практыцы аказваецца, што ніколі нельга быць самаўпэўненным, аб чым павінен памятаць асабліва той, хто думае яшчэ прыступіць да экзаменаў на беларускую філалогію.

Сярод моладзі, здаецца існуе і такі нездаровы погляд, што калі ты ўжо не дастаўся напрыклад на Політэхнікум ці Медыцынскую Акадэмію, тады ідзі братка на філалогію, там цябе напэўна прымуць.

Вынікі ўступных экзаменаў на беларускую філалогію сведчаць аднак аб тым, што вымогі тут зусім не меншыя як на іншых напрамках навучання і таму падрыхтоўка да ўступных экзаменаў на філалогію павінна быць не менш грунтоўнай.

Трэба тут таксама паставіць пытанне: Чаму на 20 месц на беларускую філалогію прыступіла да ўступных экзаменаў толькі 11 кандыдатаў? Здаецца віна гэтага ляжыць у слабай рэкрутацыі. Вялася недастатковая прапаганда, каб зацікавіць моладзь беларускай філалогіяй. На наш погляд мала тут зрабіла Беларускае таварыства, а таксама мала цікавіліся гэтай справай Аддзелы асветы і дырэкцыі беларускіх школ.

Так у мінулым, як і ў гэтым годзе найбольш зацікаўленымі беларускай філалогіяй аказаліся Беларускі Ліцэй у Бельску і Гайнаўцы. Зусім мала цікавяцца філалогіяй: Міхалова, Саколка, а нават Беласток. Не прыходзіць на філалогію беларуская моладзь з польскіх сярэдніх школ. Магчыма, што гэтая моладзь баіцца экзамену па беларускай мове. Трэба сказаць, што хоць мы дамагаліся таго, каб на беларускую філалогію ўвесці ўступны экзамен па беларускай мове, экзамен гэты і далей існуе толькі фармальна. Найлепш сведчыць аб тым, той факт, што ў мінулым годзе прынялі на беларускую філалогію тры польскіх сяброўак, якія зусім не ведалі беларускай мовы. Таксама выглядае справа і ў гэтым годзе. Дастаўся напрыклад на беларускую філалогію сябра, які кончыў сярэднюю школу ў Варшаве.

У канцы верасня адбудуцца дадатковыя экзамены на беларускую філалогію. Трэба зрабіць усё, каб запоўніць гэтыя 16 вольных месц.

Астаецца тут пажадаць Беларускаму таварыству, Аддзелам асветы і дырэкцыям школ: як найбольш кандыдатаў на беларускую філалогію!

У рэкрутацыі павінны таксама дапамагчы студэнты другога курса беларускай філалогіі, якія знаходзячыся ў часе летніх канікул на Беласточчыне найлепш могуць зацікавіць моладзь сваім напрамкам навучання і пераканаць яе, што на Беласточчыне на кожным кроку адчуваецца недахоп філолагаў, якія-б добра ведалі беларускую мову і літаратуру.

Няма сумнення, што развіццё беларускай асветы і культуры ў Польскай Народнай Рэспубліцы ў сучасны момант ідзе наперад многа хутчэй за цэлае пасляваеннае трынаццацігоддзе і патрабуе ўсё большай і большай колькасці людзей з высокімі кваліфікацыямі па беларускай мове і літаратуры ў розных галінах беларускай асветы і культуры.

Многія людзі яшчэ сёння разумеюць у наступны спосаб: навошта многа вучыцца, калі нават пасля сямігодкі можна вучыць у пачатковай школе. Гэтыя людзі павінны памятаць аб тым, што незадоўга надыйдзе той час, калі нават у пачатковых школах будуць вучыць настаўнікі не толькі з сярэднімі, а нават з вышэйшымі педагагічнымі кваліфікацыямі. Той, хто не захоча ўзбагачваць свае веды, падымаць кваліфікацыі — вымушаны будзе ўступіць сваё месца другім. Моладзь, асабліва маладыя настаўнікі павінны мець на ўвазе, што калі ім сёння нехочацца вучыцца — заўтра можа ўжо аказацца крышку познавата, таму што прыдуць іх замяніць новыя людзі, маючыя багатыя веды, вышэйшыя кваліфікацыі.

Кожнаму беларусу, якому ляжыць на сэрцы развіццё нашай роднай мовы, нашай беларускай культуры павінна таксама ляжаць на сэрцы і тое, каб як найбольш маладых людзей з Беласточчыны трапіла на беларускую філалогію, пасля сканчэння якой, памогуць беларускаму насельніцтву ў Польшчы, падняць на вышэйшы ўзровень яго вельмі яшчэ беднае культурнае і эканамічнае жыццё.

ВІКТАР ШВЕД

ШТОТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

# Асвета ў Беларусі

Апублікаваны ў апошнім часе ў Совецкім Саюзе статыстычны даведнік*) змяшчае цікавую інфармацыю аб стане асветы ў Беларускай ССР.

Паводле гэтых даных, у 1955/56 г. у Беларусі было 11,4 тысяч агульнаадукацыйных школ у якіх навучалася 1,2 млн. чалавек. Акрамя таго існавалі 334 іншыя школы (для дарослых і рабочай і сельскай моладзі) з колькасцю навучэнцаў — 47 тысяч чалавек.

Галоўныя паказчыкі развіцця асветы ў Беларусі прадстаўляюцца наступным чынам:

| Школьны год. | школы | | | | Колькасць вучняў (у тыс.) |
|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | у тым ліку | | | |
| | | Пачатковыя | 7 кл. | Сярэднія | |
| 1940/41 | 11.844 | 8.312 | 2.562 | 934 | 1.691,5 |
| 1945/46 | 10.915 | 8.910 | 1.641 | 353 | 1.336,3 |
| 1950/55 | 11.767 | 8.086 | 2.304 | 761 | 1.498,6 |
| 1955/56 | 11.443 | 7.095 | 2.877 | 1.447 | 1.218,1 |

Гэтыя даныя паказваюць, што за пасляваенныя гады агульны лік школ у Беларусі некалькі паменшыўся, аднак яшчэ не дасягнуў даваеннага ўзроўню.

У сувязі з пераходам на абавязковае сямігадовае навучанне, якое ў Беларусі ажыццяўляецца ад 1949 г., асабліва хутка пашыраецца сетка сямігадовых школ. У 1955/56 г. было ўжо 2.877 сямігадовых школ, што на 12 прац. перавышае даваенны ўзровень, яшчэ хутчэй растуць сярэднія школы, якіх у 1955/56 г. было 1.447 гэта значыць на 55 прац. больш чым перад вайной.

У даваенным 1940/41 г. у школах Беларускай ССР навучалася 1,7 млн. вучняў. За пасляваенныя гады колькасць вучняў не толькі не дасягнула даваеннага ўзроўню, але нават зменшылася.

Як паказваюць успамянутыя лічбы за апошнію пяцігодку 1950/51—1955/56 колькасць вучняў у школах Беларусі зменшылася з 1,5 млн. — да 1,2 млн. чалавек. Магчыма, што гэтая з'ява звязана з змяншэннем агульнай колькасці насельніцтва Беларускай ССР у параўнанні з даваенным часам. Аднак і ў пераліку на 100 чалавек наяўнага насельніцтва ў рэспубліцы перад вайной прыходзілася 18,4 вучняў, а зараз — 15,2.

За пасляваенныя гады значна палепшылася абсталяванне школ, узрасла колькасць стыпендыяў і інтэрнатаў, узрос і палепшыўся склад кваліфікаваных настаўнікаў. Дастаткова сказаць, што за перыяд 1940 — 1955 бюджэтныя расходы на асвету ў Беларусі ўзраслі з 836 млн. да 1.820 млн. рублёў, г. зн. больш чым у два разы.

У сярэднім на аднаго школьніка ў 1955/56 г. бюджэтныя расходы дасягнулі 1.500 рублёў у тры разы перавышаючы даваенны ўзровень. У выніку гэтых мер з году ў год павышаецца ўзровень працы школ у Беларусі. У параўнанні да іншых краін і совецкіх рэспублік колькасць вучняў у школах Беларусі даволі высокая. Так напрыклад на кожныя 100 чалавек у Беларусі навучаецца 15,2 вучняў, у той час на Украіне — 14,5, у Літве — 16,0 у Польшчы—12,3 і ў Беластоцкім ваяводстве — 13, 8 вучняў.

Важным дапаўненнем да сеткі школ у Беларусі з'яўляюцца дзіцячыя сады, у якіх у 1955 г. займалася 34,2 тыс. дзяцей супраць 45,5 тыс. у 1940 г.

Вельмі цікавай з'яўляецца праблема беларускай мовы ў школах БССР. Афіцыйныя даныя гавораць, што ў 1955/56 г. на агульную колькасць 11,4 тыс. школ у Беларускай ССР было 10,8 тысяч беларускіх і 590 рускіх школ. Аднак у рускіх школах, якія



Будынак Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

складаюць толькі 5 прац. усіх школ у Беларусі, навучаецца 22 прац. (268 тыс.) усіх школьнікаў, у той час, як у беларускіх школах, як'я складаюць 95 прац. усёй колькасці школ, навучаецца толькі 78 прац. (950 тыс.) усёй школьнай моладзі Беларусі.

З гэтага вынікае, што ў сярэднім на адну беларускую школу, прыпадае 88 вучняў, а на рускую школу — 453 вучні. Гэтыя лічбы пазваляюць меркаваць, што драбнейшыя беларускія школы адпавядаюць хутчэй сельскім мясцовасцям, тады як у гарадах, дзе школы як правіла буйнейшыя — пераважаюць школы рускія.

Гэтыя цікавыя лічбовыя паказчыкі не даюць яшчэ поўнага ўяўлення аб становішчы беларускай мовы ў школах Беларускай ССР Ведаем з нашага вопыту, што часта пад фірмай «беларускай» школы ў Беласточчыне большая частка прадметаў выкладаецца на польскай мове. Падобнае становішча і ў Беларускай ССР. Не гледзячы на значныя агульныя дасягненні беларускай савецкай школы, за пасляваенныя гады былі допушчаны вялікія памылкі ў практыцы навучання на роднай, беларускай мове. Вось што на гэту тэму пісала «Звязда» з 12 мая г. г.:

«Праверкай устаноўлена, што ў многіх школах з беларускай мовай навучання выкладанне ўсіх прадметаў, за выключэннем беларускай мовы і літаратуры, вядзецца на рускай мове» і далей — «часта бывае так, што настаўнік ставіць пытанне на рускай мове, а вучань адказвае на беларускай».

«Звязда» звяртае таксама ўвагу на тое, што многія настаўнікі беларускіх школ вядуць выкладанне на змешанай беларуска - рускай мове, не дбаюць аб культуры мовы і не праяўляюць да сябе неабходных патрабаванняў.

З мэтай павышэння якасці выкладання беларускай мовы Цэнтральны Камітэт КПБ выдаў адпаведную пастанову, якая надрукавана ў часопісе «Комуніст Беларусі» за май г. г. ЦК КПБ абавязаў Міністэрства Асветы Беларускай ССР, партыйныя і савецкія органы народнай асветы прыняць меры для паляпшэння работы беларускіх школ, укамплектавання іх адпаведнымі педагагічнымі кадрамі ведаючымі беларускую мову.

У пастанове ЦК КПБ адзначаецца таксама, што вывучэнне беларускай мовы з'яўляецца абавязкам беларускай моладзі, ад якога вызваляюцца толькі дзеці кадравых ваеннаслужачых і асоб, якія камандзіраваны з іншых рэспублік на часовую работу ў Беларускую ССР.

(тур)

*) *Культурное строительство СССР, Москва 1956 г.*



Сярэдняя школа № 2 у Мінску.



У адным з кніжных магазінаў горада Мінска.

## Алесь Наўроцкі

*Малады паэт Алесь Наўроцкі нарадзіўся ў 1937 годзе ў Даманавіцкім раёне і, закончыўшы — пасля сямігодкі — Бабруйскую школу фельчараў, два гады працаваў на Гродзеншчыне, а цяпер вучыцца на першым курсе Мінскага медінстытута.*

### Я хацеў засмяяцца

Я хацеў засмяяцца, каб мой смех усюды пачулі.—
Але замест смеху ад гора зайшоўся плачам;
Я вочы свае раскрыў, каб убачыць усмешку матулі —
Але акрываўлены нож над вачыма ўбачыў.

Мой таварыш намерыўся мяч цераз сетку кінуць —
Я падскочыў схапіць гэты мяч, а схапіў... гранату:
З неба ліўня чакаў, каб на нівы той лівень хлынуў, —
Хлынуў лівень і куль і асколкаў на родныя хаты.

Ці-ж я мог засмяяцца, калі дым зачарніў усё неба,
Калі грукатам танкі з крыжамі мой край аглушылі,
Калі жыў ля вады без вады і ля хлеба без хлеба,
Калі цэлымі суткамі кулі секунды лічылі?!

Я надоўга суровым зрабіўся, убачыўшы гэта,
Аж чатыры гады трэба гору было не паддацца.
Нават пасля Перамогі, ў тое майскае лета,
Не адразу я змог засмяяцца.

### Расінка

Яблыні галінка звычайную расінку трымае.
І бліщчыць расінка — сястра іншым росам.
Расінка, адкуль ты з'явілася? З якога краю?
Я стаю і думаю над тваім лёсам.

Ты стамілася, адпачыць прысела
Пасля падарожжа па ўсіх кутках планеты...
Э, чакай! Цябе няма! Загаварыўся, а ты паляцела...
Расінка, вярніся! Дзе ты? Дзе ты?...

Што-ж, ляці!.. Падарожжа жадаю сусветнага.
Хай з прыгодамі шлях будзе твой!
Праз тысячу год у паэта, як я, непрыкметнага,
Ты, магчыма, бліснеш слязой.

